# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 23 (1058) ГОД XXI 6 ЧЭРВЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.




*Выступае васьміасабовы жаночы хор з Сахоняў.*

## Гаспадыні з тэатральным пачуццём

Сахоні — невялікая вёска ў лясістай ваколіцы ў Васількоўскай гміне. Многія яе жыхары даязджаюць на работу ў Беластоку, Васількове, Чорнай Беластоцкай. У вёсцы астаюцца жанчыны. Яны маюць крыху свабоднага часу (асабліва ў асенні і зімовы перыяд) і яго прызначаюць на культурную дзейнасць.

Усё тут пачалося ад школы. Вёска пастанавіла сабраць крыху грошай і будаваць яе грамадскім чынам. Хутка жыхарам Сахоняў удалося пабудаваць фундамент, звезці будаўнічыя матэрыялы.

У 1970 годзе прыехала ў Сахоні новая настаўніца Марыя Вярцінская. Было за ёй 10 гадоў працы ў Страшаве, дзе з'яўлялася старшынёю гуртка вясковых гаспадынь (КГВ). Вяла калектыў, які ў конкурсе „Вёска бліжэй тэатру" заняў першае месца ў краіне. Кіравала калектывам сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР). У Сахонях настаўніца давяла да канца пабудову школы. У тым самым будынку размясціўся клуб, які пачаў весці багатую культурную дзейнасць.

Настаўніца М. Вярцінская вырашыла папрацаваць з драматычным калектывам. Самадзейнікі ўзяліся за падрыхтоўку п'ес, якія закранаюць пытанні цяперашняга жыцця.

На аглядзе драматычных калектываў у Супраслі самадзейнікі з Сахоняў занялі другое месца. Асаблівыя здольнасці да акцёрскай ігры маюць Анастасія і яе дачка Галіна Цібароўскія.

Жанчыны (усе яны члены КГВ) таксама вельмі ахвотна спяваюць. Самі складаюць песні, як напрыклад, адна з іх, якая асабліва запамяталася на многія гады, — „Нашыя гаспадыні".

Удзельнічаюць яны ў конкурсах фальклорнай песні. Між іншым, удзельнічалі яны ў конкурсе фальклорнай песні ў Сямяцічах.

З мастацкай праграмай жанчыны ездзілі амаль у кожную вёску Васількоўскай гміны, а таксама ў Страшава (гміна Гарадок), Чырвонцы (гміна Сухаволя).

У чэрвені мінулага года на ваяводскім аглядзе аматарскіх мастацкіх калектываў два калектывы з Сахоняў занялі найлепшыя месцы: драматычны — першае і вакальны — другое. Атрымалі яны высокую грашовую ўзнагароду — 7500 зл.

ГС у Васількове купіў піяніна ў сахонеўскі клуб селяніна, а жанчынам матэрыял, з якога пашылі яны сабе аднолькавыя сукенкі для выступленняў.

Жанчыны з Сахоняў прыйшлі да вываду, што найлепш супольна вучыцца, як варыць, пячы, рабіць кампоты, шыць вопратку, коўдры, займацца ручной вышыўкай. Штогод летам і восенню яны арганізуюць у школе дзяцінцы (пры школе пабудавана спецыяльная пляцоўка для дзіцячых гульняў), вырошчваюць малавядомую гародніну. Яны ахвотна ўдзельнічаюць у конкурсах: гігіены малака (у мінулым годзе занялі другое месца ў ваяводскім конкурсе), па вырошчванню гародніны, на найпрыгажэйшы кветкавы агародчык. Займалі першыя месцы і атрымлівалі ўзнагароды ад арганізатараў. Маюць ужо многа супольнага кухоннага абсталявання, „робаты", млынкі, міксеры, розны кухонны посуд.

У Сахонях любяць кветкі. Таму поўна іх у агародчыках перад дамамі. Многа і ў школьным будынку, і ў клубе. Задбалі пра іх усе сахонеўскія гаспадыні.

У клубе кожны дзень адбываюцца ці-

(Працяг на стар. 4)

## Толькі жыць...

— А нам што... па **дзвесце злотых** на працадзень нам прыпадае, за мяжу на экскурсіі кожны год ездзім...

— Нашы кабеты газавыя кухні бясплатна атрымалі...

Гляджу на іх недаверліва. **Аляксей Аліферук** і **Уладзімір Шварц** — члены-заснавальнікі сельскагаспадарчага кааператыва ў вёсцы Старакорніне. Побач іх старшыня **Аляксей Тамашук**, яшчэ зусім малады. Глядзіць на мяне, бачыць маю збянтэжанасць і ціха ўсміхаецца.

— Што, — адгукваецца ўрэшце, — не верыце? А гэта ж праўда! Бо сапраўды наша спулдзельня ўжо чацверты год плаціць сваім членам па 200 злотых за адзін працадзень. Летам або восенню, калі ў полі наспяваюць тэрміновыя неадкладныя работы, можна ў нас за адзін дзень зарабіць і паўтара, нават і два працадні, што ў пераліку на грошы дае нам 300-400 злотых.

Цяпер разумею, чаму маладыя механізатары ў старакорнінскім кааператыве не хочуць звычайнай месячнай зарплаты паводле агульнаабавязваючых правіл, а патрабуюць, каб узнагароджвалі іх працаднямі.

— А яшчэ ў гэтым годзе, — інфармуе Аляксей Аліферук, — кожны з нас, хто працаваў тут больш за дзесяць гадоў, атрымаў платны месячны водпуск — таксама па 200 злотых за 26 рабочых дзён.

Хутка пералічваю: **5200 злотых.** Так яно і павінна быць. За добрую працу трэба добра плаціць. Гэта ж асноўны прынцып нашай дзяржаўнай палітыкі. А сельскагаспадарчы кааператыў у гэтай галіне не мае аніякіх абмежаванняў. Плаціць сваім членам столькі, колькі яны самі выпрацуюць. Дзяржава не дакладае ім ані залатоўкі.

— Наша спулдзельня, — паясняе старшыня, — аб'ядноўвае зараз 24 сялянскія сем'і, у нас 58 членаў, гаспадарым на 270 гектарах супольнай зямлі, а ў наступным годзе прымаем яшчэ 200 га зямлі, пакінутай сялянамі. Апрача звычайнай прадукцыі збожжа і жывёлагадоўлі, ужо многа гадоў займаемся адкормам куранят, што дае нам даволі высокі прыбытак. За адзін раз ставім мы на адкорм 16 тысяч маленькіх куранят.

Заўважаю, што гэта не так ужо і многа, бо зараз іншыя кааператывы, для прыкладу ў Рыбалах, будуюць птушкафермы на 3 мільёны куранят у год.

— Гэта іх спецыялізацыя, — адказвае старшыня. — Мы таксама рашылі спецыялізавацца, — бо ўжо вычарпалі ўсе крыніцы прыросту даходу. Выбралі адкорм свіней і вырошчванне зімовай і ранняй агародніны. У гэтым напрамку

(Працяг на стар. 2)



*Ірэна Васілюк з Галадоў (І месца).*

**ВАЙНА І БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ**

## Чытальніцкі конкурс

16 мая ў будынку Бельскага беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча адбыліся ваяводскія элімінацыі чытальніцкага конкурсу пад загалоўкам „Вялікая Айчынная вайна ў творчасці беларускіх пісьменнікаў", які арганізавалі: Галоўнае праўленне БГКТ, Ваяводская і гарадская бібліятэка і Ваяводскае праўленне ТППР. Мэтай конкурсу была папулярызацыя чытальніцтва беларускай літаратуры, прысвечанай гераічнаму змаганню салдат Чырвонай Арміі і беларускіх партызанаў з фашысцкімі акупантамі ў гады другой сусветнай вайны. У конкурсе ўдзельнічала звыш трохсот чалавек, у тым ліку найбольш з Бельшчыны — 216 асоб. На ваяводскія элімінацыі чытальніцкага конкурсу закваліфікаваліся 22 пераможцы гмінных элімінацый. У Бельск

(Працяг на стар. 4)



*Марыя Чабан з Паўночнага Вострава (ІІ месца).*



*Яўгенія Барута з Плёсак (ІІІ месца).*

Пачатак на стар. 1

# ТОЛЬКІ ЖЫЦЬ...

накіроўваем усе свае капіталаўкладанні. Зараз будуем тучарню на 1200 свіней, што дазволіць нам дастаўляць у год каля 3 тысяч кормнікаў. Будзем мець таксама 3 тысячы квадратных метраў зямлі пад шклом з паравым ацяпленнем, дзе зімой і летам, незалежна ад надвор'я, зможам вырошчваць агуркі, памідоры, салат, кветкі і ўсё іншае, што патрабуе цяпла і сонца. Аднак, трэба пачакаць яшчэ два-тры гады, пакуль будаўнікі закончаць сваю справу. А тады...

У вачах старшыні паявіліся загадкавыя праменьчыкі.

— Тады, — паўтарыў ён рашуча, — на адзін працадзень прыпадаць будзе ў нас не па 200 злотых, а ў два разы больш...

Што ж, памарыць можна, асабліва аб лепшым, болей выгодным жыцці. Зрэшты, ці я ведаю... Старакорнінскі кааператыў існуе ўжо 16 гадоў. Першы раз я наведаў яго ў пятую гадавіну існавання. Памятаю, што тады адзін працадзень ацэньвалі тут на 80 злотых, а марылі дасягнуць 100 злотых. А вось цяпер...

Старшыня паказвае мне нейкі дакумент. Чытаю: *„План сацыяльнага забеспячэння членаў сельскагаспадарчага кааператыва ў Старым Корніне“*. Чаго тут няма! На першым месцы святкаванне Міжнароднага дня жанчын...

— О, гэтае свята заўсёды праходзіць у нас вельмі ўрачыста, — гаворыць Уладзімір Шварц. — Вось у гэтым годзе кожная жанчына атрымала ў нас па 400 злотых ўзнагароды, старшыня прывалок поўны кошык шампанскага, кабеты падрыхтавалі закуску.

— Мы шануем сваіх жонак... — смяецца Аляксей Аліферук, — а я вяртаюся да гэтага плана, дзе прадбачваюцца паездкі за ягадамі, за грыбамі, у тэатр, у варшаўскі заапарк...

— Бо мы з варшаўскім заапаркам, — уключаецца старшыня, — маем пастаянную ўмову на пастаўку ім сена. Дык паедзем паглядзець, як на кааператыўным сене адкармілася экзатычная жывёла.

— А што з тымі замежнымі экскурсіямі, пра якія ўспаміналі вы тут на пачатку? — пытаю.

— У Крыме пабывалі ў сакавіку наш старшыня і камбайнёр Валодзя Герасімюк, — гаворыць Уладзімір Шварц. — Я быў у Маскве і Ленінградзе. Кожны год ездзім...

— Зараз у нашай спулдзельчай касе знаходзіцца 80 тысяч злотых, якія можам прызначыць на турысцкія паездкі, — паясняе старшыня. — Таму кожны год у нас па дзве-чатыры асобы адпраўляюцца за мяжу, а кааператыў пакрывае ім палавіну коштаў гэтай паездкі.

Што ж, сапраўды — толькі жыць...

**Віктар Рудчык**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**VIII з'езд БГКТ ● Па-суседску мы жывем ● Арэшкаўскі фэстын ● З'езд карэспандэнтаў ● Боцькі поўныя фальклору ● З маёй званіцы ● Ад родных ніў (новая рубрыка) ● Цікавая знаходка ● Весткі з Бельска, Гарадка, Ляшукоў, Чаромхі, Крываціч, Бабікаў, Піражкоў, Нараўкі ● Калі сніцца балаган ● Песня „Kochaj ile sił“**





## Наша галерэя



**В. К. Цвірко — „Каложа“ (Дзярж. маст. музей БССР).**

**НА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ**

# ВЫДАТНЫЯ ЛЮДЗІ — ВЫХАДЦЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Плённая беластоцкая зямля на таленавітых людзей! Сваім важкім укладам яны трывала ўпісаліся ў гісторыю рэвалюцыйнага руху, абарону інтарэсаў працоўнага люду, навуку і культуру.

Супрацоўнікам і памочнікам У. Леніна быў Максім Літвінаў (т. VI, с. 396), які нарадзіўся 29 ліпеня 1876 г. у Беластоку. Паходзіў ён з сям'і служачага. У 1898 г. уступіў у Рускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю. Нелегальна вёў партыйную работу ў Клінцах, Кіеве, Рызе, быў агентам ленінскай газеты „Искра“ і членам Бюро камітэтаў большасці, як дэлегат удзельнічаў у працах III з'езду РСДРП у 1905 г. у Лондане. „У 1907-1918 г.г. у эміграцыі, сакратар Лонданскай групы бальшавікоў, прадстаўнік бальшавікоў у Міжнародным сацыялістычным бюро. З 1918 г. член калегіі Наркамата замежных спраў, з 1921 г. намеснік наркома, у 1930-39 г.г. нарком замежных спраў СССР, прадстаўнік СССР у Савеце Лігі нацый (1934-1938 г.г.). У 1941-1946 г.г. намеснік наркома замежных спраў СССР, адначасова ў 1941-1943 г.г. пасол у ЗША і з 1942 г. пасланнік СССР на Кубе. На XVII і XVIII з'ездах ВКП(б) выбраны членам ЦК. Член ЦВК СССР, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР 1-2 склікання. Узнагароджан ордэнам Леніна, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі“. Памёр М. М. Літвінаў 31 снежня 1951 г.

Выдатным рэвалюцыйным і ваенным дзеячом быў Рамуальд Муклевіч. (т. VII, с. 312), які нарадзіўся 7 снежня 1890 г. у рабочай сям'і ў мястэчку Супрасль каля Беластока. Працаваў рабочым на беластоцкіх і лодзінскіх тэкстыльных фабрыках. У 1906 г. уступіў у РСДРП, за рэвалюцыйную дзейнасць у 1907 г. трапіў у турму. Удзельнічаў у падзеях Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе, затым быў военачальнікам у Чырвонай Арміі і змагаўся на розных франтах Грамадзянскай вайны. У мірны час працаваў на высокіх пастах у камандаванні Чырвонай Арміі і абароннай прамысловасці СССР, быў членам ЦВК СССР і РВС СССР. Памёр Р. А. Муклевіч 9 лютага 1938 г.

Відны ўдзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі і дзяржаўны дзеяч БССР — Раман Піляр (т. VIII, с. 436), нарадзіўся ён 8 жніўня 1895 г. у сям'і дробнага шляхціча ў мястэчку Лапы.

З вёскі Гаркавічы на Сакольшчыне паходзяць два выдатныя прадстаўнікі беларускага рэвалюцыйнага руху: адзін з кіраўнікоў БСР Грамады Павел Валошын (т. II. с. 579) і падпольшчык-камуніст, вядучы партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР Сяргей Прытыцкі (т. VIII, с. 608). Абедзве гэтыя постаці добра вядомы нашаму чытачу па публікацыях у „Ніве“.

Сярод значнай групы ваенных дзеячоў, якія паходзяць з Беласточчыны, найлепш нам вядомы Маршал Савецкага Саюза Васіль Сакалоўскі (т. IX, с. 317), які нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Козлікі каля Заблудава, і генерал Чырвонай Арміі і Войска Польскага Аляксандр Вашкевіч (т. II, с. 630), што паходзіў з сялянскай сям'і з мястэчка Белавежа, а таксама родам з Бельска капітан Войска Польскага Уладзіслаў Высоцкі (т. III, с. 204), які загінуў 12 кастрычніка 1943 г. у гістарычнай для адроджанай польскай арміі бітве пад Леніна на Беларусі. Са старонак БелСЭ даведваемся пра такіх відных дзеячоў Савецкай Арміі, як камандуючы фронту Фёдар Лазарэвіч (т. VI, с. 244) — нарадзіўся 28 лютага 1896 г. у вёсцы Астровак на Сакольшчыне, нам. камандуючага арміі Канстанцін Новік (т. VII, с. 530) — нарадзіўся 20 студзеня 1889 г. у вёсцы Старая Мачальня на Сакольшчыне, камандуючы арміі Антон Лапацін (т. VI, с. 260) — нарадзіўся 18 студзеня 1897 г. у вёсцы Каменка каля Беластока, генерал Канстанцін Ганчарук (т. XI, с. 606) — нарадзіўся 18 мая 1890 г. у мястэчку Белавежа, камандзір корпуса Аляксандр Фірсовіч (т. X, с. 604) — нарадзіўся 19 чэрвеня 1900 г. у Бельску, Герой Сав. Саюза Сцяпан Ялейнікаў (т. XI, с. 539) — нарадзіўся ў 1908 г. у вёсцы Навіны на Бельшчыне.

У Старасельцах каля Беластока нарадзіўся 10 кастрычніка 1878 г. савецкі вучоны ў галіне энергетыкі Аляксандр Вінтэр (т. III, с. 98), які, між іншым, „узначальваў будаўніцтва Шатурскай, Дняпроўскай электрастанцый, прымаў удзел у будаўніцтве Куйбышаўскай ГЭС і іншых“. Выдатны рускі і беларускі архітэктар і педагог Іосіф Лангбард нарадзіўся 18 студзеня 1882 г. у Бельску, ён, між іншым, з'яўляецца аўтарам многіх манументальных будынкаў у Мінску: Дома ўрада, Акруговага Дома афіцэраў, Беларускага тэатра оперы і балета, галоўнага корпуса Акадэміі навук БССР, а таксама помнікаў і будынкаў, узведзеных у іншых гарадах СССР. У вёсцы Наройкі каля Сямяцічаў 25 кастрычніка 1884 г. нарадзіўся беларускі савецкі археолаг Сяргей Дубінскі (т. IV, с. 300), які „вёў раскопкі курганоў і каменных магіл у Бельскім павеце, даследаваў гарадзішчы і могільнікі Міншчыны, Магілёўшчыны і Віцебшчыны“ і з'яўляецца аўтарам шэрагу каштоўных прац па археалогіі. Рускі савецкі рэжысёр, сцэнарыст і тэарэтык кіно Дзіга Вертаў — сапраўднае прозвішча Дзяніс Каўфман — нарадзіўся 2 студзеня 1896 г. у г. Беластоку. У Бельску 10 лістапада 1897 г. нарадзіўся беларускі і яўрэйскі савецкі літаратуразнавец і крытык Якаў Браништэйн.

Сярод выдатных людзей, якія былі родам з Беласточчыны, ёсць таксама і беларускі савецкі журналіст-публіцыст, аўтар артыкулаў па пытаннях тэорыі і практыкі бальшавіцкага друку, між іншым, былы рэдактар газеты „Чырвоная змена“ (Мінск) — Аляксандр Джалюк, які нарадзіўся ў 1905 г. у вёсцы Мацішэўка на Бельшчыне.

**І. Снарскі**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 5.VI.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 9.10 Hod. zwierz. 9.40 Pr. I prop. 9.55 Pr. dnia. 10.00 Utrapienie — film fab. czech. 11.25 Inf. Wyd. 11.40 Recepta? — rep. 12.40 Spotkania z Kaliską muzyką. 13.20 ZSRR po XX Zjeździe KPZR. 14.10 STUDIO 2. Rytmy i mel. Stud. 2. 14.55 Miniatury — rep. film. 15.00 Strzały w Dodge City — film. 16.20 Spotk. z A. Bardinim cz. I. 17.25 Czerwone gitary. 17.50 Sabat i I. Jarocka. 18.05 Ludzie, którzy tworzą fakty. 18.35 Śpiewa W. Bagłajenko. 18.50 Nauka języka. 19.00 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Przed kamerami gwiazdy. 21.20 Nocne lęki — film fab. ang. 22.50 Spotk. z A. Bardinim cz. II. 23.40 Próba ognia — film.

**Niedziela 6.VI.** 6.25 Tech. Rol. Mat. 6.55 Hod. zwierz. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 Dla dzieci. 9.30 Antena. 9.50 Grajkowie w Seraju — film fab. czech. 11.05 Spotkania po latach. 11.50 Przegląd polon. 12.20 Dzien. 12.40 Jarmark pieśni i tańca. 13.10 Dialogi z poetą o poezji. 13.50 Fryderyk Chopin to... — rep. 14.25 Łąka. 14.55 Los. Duż. Lot. 15.10 Łamigłówki na Batorym — turniej. 16.30 Refl. ob. 16.45 Progi i bariery. 17.55 Sport. 18.55 Artyści dzieciom. 19.20 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Wyzwanie — film ser. fr. 21.25 Święto Trybuny Robot. 22.35 Sport.

**Poniedziałek 7.VI.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Mat. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzien. 16.40 Echo stad. 17.15 Dla dzieci. 17.45 Hamburska niedziela — film dok. 18.00 Pierwsza akcja — film ser. bułg. (Ostatnia rozgrywka). 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Teatr TV: L. Pirandello — Żeby wszystko było jak należy. 21.40 Świadkowie. 22.00 Dzien. 22.15 GUSTAW LUTKIEWICZ.

**Wtorek 8.VI.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 10.00 Wyzwanie — film ser. fr. 13.45 Tech. Rol. Bot. 14.30 Upr. rośl. 16.00 Pr. dnia. 16.05 Na wielkim i mał. ekr. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Stud. Mł. 18.00 Sport. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Wielka kariera — film fab. ang. 21.55 Interstud. 22.40 Dzien. 22.55 WOJCIECH TRZCIŃSKI.

**Środa 9.VI.** 6.00 Tech. Rol. Bot. 6.30 Upr. rośl. 10.00 Letnia przygoda — film fab. NRD. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przygot. Fiz. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzien. 16.40 Los. Mał. Lot. 16.55 Popołudnie najmł. 17.35 Pr. publ. 18.15 Sport. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.35 W zielonym obiekt. 20.45 Filmy Bergmana: Kobiety czekają. 22.25 Pr. publ. 22.55 Dzien. 23.10 Lekt. Pegaza.

**Czwartek 10.VI.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 10.00 Najlepszy człowiek jakiego znam — film fab. bułg. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 TELEFERIE. 18.10 Patrol. 18.40 BANK 440. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Teatr Sensacji: P. C. Clark — Upiór w kuchni. 21.40 Pegaz. 22.25 Dzien. 22.40 Anioł i róża — recital.

**Piątek 11.VI.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Mech. rol. 10.00 Cud — film fab. jug. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przygot. Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pr. pop. naukowy. 17.35 Inf. Wyd. 17.50 X Y Z — cz. I. 16.25 Etiopia Tigdem — film dok. 18.50 Przez maskę płetwonurka — film dok. fr. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Dama od Maxima — kom. muz. 21.40 Drogowskazy. 22.25 Dzien. 22.40 Pr. publ.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 4.VI** — 8.35 Film fab. 14.25 Film fab. 17.40 Film fab. 19.30 Koncert. 20.30 Sport.

**Sobota 5.VI** — 9.00 Film fab. 13.25 Film fab. 15.00 W świecie zwierząt. 16.15 Filmy anim. 17.25 Koncert. 17.55 Krótkometr. filmy fab. 19.30 Koncert.

**Niedziela 6.VI** — 9.00 Spektakl dla dzieci. 12.25 Sport. 13.30 Panorama międzynar. 14.00 Koncert. 14.45 Film fab. 18.00 Klub film. 20.40 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Noce i dnie I s. — pol. 8—13.

**Czeremcha** Stara panna — fr. 8—9. Miasto w czerni — węg. 12—13.

**Czyże** Legenda o Paulu i Pauli — NRD. No i co doktorku — USA. 9—13.

**Dubicze Cerkiewne** Fraulein doktor — jug. Jezioro starej sowy — NRD 9—13.

**Gródek** Noce i dnie I s. — pol. 12—13.

**Kleszczele** Tydzień szaleńców — rum. 8—9. Polska gola! — pol. 10—11. Straszna teściowa — radz. 12—13.

**Michałowo** Noce i dnie I s. — pol. 8—13.

**Mielnik** Bez wyraźnych motywów — fr. 9. Dni miłości — mek. 12—13.

**Milejczyce** Królewna w oślej skórze — fr. 8—10. Kto szuka złotego dna — czes. Obrazki z życia — pol. 9—13.

**Narew** To ja zabiłem — pol. Manewry Dniepr — radz. 9—13.

**Narewka** Doktor Judym — pol. Gniewna podróż — bułg. 9—13.

**Nurzec** Wakacje we czworo — wł. 8—9. Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. 10—11. Rzeka płynie dla zakochanych — radz. 12—13.

**Orla** Rodzinny gang — wł. Trzej świadkowie — czes. 9—13.

**Rajsk** Charley Varrick — USA. Kobiety, które kochałem — rum. 9—13.

B.Z.Graf. Zam. 1300 F-2

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 209


* * *

*Раз-другі свіснуў тапор*
*з-за вуха з размаху,*
*зубам бліснуўшы стальным,*
*проста ў грудзі бахнуў.*
*Глухі стогн — і з пырскамі*
*дробленага цела*
*ў пашчу мёртвага збанка*
*жыццё палящела.*
*За глытком глытаў глыток*
*перасохшай глоткай,*
*пакуль аж не папярхнуўся*
*быццам чужой водкай.*
*Потым хутка ў рукі з рук*
*збан перадавалі,*
*жывот гладзячы, пілі —*
*што і за што не зналі.*
*Доўга плакалі крывёй*
*расцятыя вены,*
*а слязінкі па ствале*
*на чарапкі ляцелі.*

**М. Шаховіч**

## Шчасце

Глянь на месячык,
Глянь на ясненькі,
Прытулі шчаку да шчакі.
Пойдзем мы з табой,
Мой ты Ясенька,
У адну спляцем дзве рукі.

Сядзем блізенька
Пад ялінаю,
Светлячок начны падміргне.
У начной цішы
Мы адзіныя,
Нам ніхто яе не кране.

Слова шчырага,
Сэрцу мілага,
Ты ніводнага не кажы.
Ў ночку белую,
Шчасцем спелую,
Тайну нашую беражы.

Нават месячык —
Сведак радасці
За хмурынкаю твар схаваў.
Як жарлівыя,
Палахлівыя
Вусны ты мае цалаваў.

**Л. Танкевіч**

* * *

*Я ішоў да твайго сэрца*
*як пад высокую гару*
*поўную ядлоўцаў і каменняў*
*ішоў у неба статыкаўся*
*калі дайшоў зышлі мы разам*
*на мяккім дыване травы*
*у ціхім співе дрэў сардэчных*
*зышлі ў зялёную даліну*
*з якой не выйдзем мы без*
*сына.*

**Алесь Барскі**

* * *

*Напіўшыся крынічнай вады,*
*вяртаюся праз агарод дахаты.*

Лячэбныя крынічныя воды.
А поплава цёплы дурман
ілюзію ствараe свабоды —
бягу паслухмяны нагам.

Бягу па чужым у чужое,
да мэты зялёнай, па кветках,
дзе ў дужках платоў адубелых
вясковае пасвіцца лета,

дзе напружанай мовай
лапочуць формы лапчасты,
за нейкае свінства часта
кусацца і біцца гатовы.

Яхідныя мсціўцы, пурысты,
падлізы, штодзень у распусце,
дахаты прайсці — не прапусцяць,
не абазваўшы турыстам,

нікчэмнай мужыцкай пачварай,
і ногу падставяць, па твары
нахвошчуць і дзе як папала
спякуць крапівой, каб памятаў я.

**Янка Чыквін**

## ЗАРНІЦА

На небе зарніца румянцам іграе
ды будзіць заснуўшы працоўны дзянёк,
Дзянёчак руплівы міргаННем вітае
ды нібы смяецца яму незнарок...
З хвілінаю кожнай ярчэй палымнее
пасветай залоціць вершаліны дрэў;
памрока над спячай зямелькай яснее —
свет цэлы, здаецца, кругом паяснеў...
Нябеснай зарніцаю цешацца вочы
Не толькі вясноваю ранняй парой,
калі заруменіць па цемені ночы
над нашай каханай ды роднай зямлёй.
З усходу вітанне, адтуль прабуджэнне —
штодзённа праменіць на небе ўсход;
туды былі думкі ды нашы імкненні,
дзе новага, лепшага дня паварот...

**У. Шклярук**

## ВЯСНОЮ

І зноў плывуць у небе жураўлі,
Пад сонцам зеленеюць дрэвы,
І абудзіліся застыўшыя палі,
Ды пракрычалі пеўні новыя напевы.

Сусед бадзёра ставіць новы плот,
Суседка шые новае адзенне.
Ў другім канцы сяла рыхтуецца вяселле,
І закрасуецца вясёлкай карагод.

Чуць-чуць мацней заб'ецца ў грудзях сэрца,
Чуць-чуць мацней зайграе ў жылах кроў —
Душа шукае для сябе прастораў,
Вясна шуміць, шуміць вясна вакол.

**Мікалай Варанецкі**

* * *

*Мае песні*
*тканыя павуціннем*
*табе дарую*
*сарвеш*
*перашкодай*
*як станучь*
*брыльянтамі*
*асеўшых рос*
*заплачу*
*мае словы*
*пялёсткі адуванчыка*
*змахнеш рукой*
*нячулаю*
*ветрам*
*асеннім*
*задрыжу*
*асінай*
*адзінокаю*
*мае песні*
*пратканыя*
*тваім голасам*
*салавей*
*вясною*
*праспявае*
*тваё імя*
*найдаражэйшае*
*рэхам*
*бура*
*пранясе*
*у свет.*

**Вераніка Леанюк**

## ДОМ

Далёкі дом,
далёкі, а ўбогі
з'явіўся сном,
як госць сярод дарогі.

Бадзяжны час
і мысль на бездарожжах,
як ў картах „пас“,
як пройгрыш марны можа.

І хтось ніхто
забыў шчасця гадзіны,
бо дрэва ўсё
без кораня — драўнінай.

Далёкі сон
ў слязах і расплынуўся,
пакуль жа ён
ў сне гэтым не прачнуўся.

Новыя дні
на новыя сустрэчы
шлі, як сябры
вялікай сэрцу рэчы.

Пара знайсці
сардэчнай песні слова,
пара ісці
ў жыццё, нібы аднова.

А блізкі дом,
багаты — хоць убогі —
ужо не сном...
Прыйшоў сам хтось з дарогі...

**Багдан Смыла**

### ЧАЛАВЕК — ГАСПАДАР ПРЫРОДЫ

Рана сонца так і не нарадзілася. З мокрага вугла старой ваўчыцай вылазіла хмара. Прыйшла. Вось-вось шпарне дождж.

— Дажджу не будзе, — заявіў дзед Васіль. Ён сядзеў на прызбе і глядзеў у агарод. Там, як салдаты на парадзе, стаяў мак. Над кветкамі мака руплівa лёталі пчолы. Яны нават і не думалі хавацца ад надыходзячага дажджу.

Потым хмара некуды завалілася, так і не праранійўшы кроплі.

Вечарам Віхэрэк зноў тлумачыўся, чаму не збыліся ягоныя прагнозы. Прырода, маўляў, выкінула фігля. А яна і не думала гэтага рабіць. Сведкамі таму звычайныя пчолы.

**Уладзімір Малашкевіч**

я
ноччу
сягоння крычала
— агню
— агню
— агню
а
рана
ўстаўшы казала
— люблю
— люблю
— люблю
у
поўдзень
рыдаўшы шаптала
— вады
— вады
— вады

**Ваву**

## Вясна

*Прыстань хвіліну*
*паслухай*
*фестываль вясны*
*ўжо расцвітае*
*узыходзіць*
*золак магутны*
*маем*
*каляровым*
*іграе па нотах*
*надзеі*
*сонечныя*
*мары*
*будзіць*
*жаўранка радасць*
*што б'ецца*
*ў сэрцы*
*расце*
*веснавы ручай*
*бурлівы*
*вясёлы*
*нясі нас доўга*
*з сабою.*

**Янка Брацкі**

## Зайграў вецер

Зайграў мне вецер
тую песню
што ўчора хтось спяваў
Зайграў мне, засвістаў
тонка
і паляцеў
А ў вушах песня звініць
золатам і серабром
Зайграў вецер яшчэ раз
вецер-брат
Прыйшла віхура зацягнулася
неба чорнымі хмарамі
Забубніў вецер і задудніў
Весела загуляў
па зімным сумным свеце
і песню таксама заспяваў
Заводзіў як гітара
А громы білі памагалі
як ў бубнах грукатала
І дождж у вокны званіў
песню якуюсь — саліст
сучаснага аркестра
І пацямнела
Лапаталі галіны дрэў
як шматы на платах
— білі брава
Бліскавіцы раздзіралі неба
і асвятлялі сваім светам
„сцэну“
Слухалі музыку цудоўную
дрэвы ўважна
Дождж-саліст — разназвучна
раз цішэй другі галасней
спяваў
Зайграў мне вецер бураю
сучаснай

**Ірэна Баравік**

## Под куполом нэба

*Под куполом нэба*
*Із шумом бэрyз*
*Летыт журавлінны*
*Крыклівы обуоз.*
*Нэсут дзісь на крылах*
*Зэлёну вэсну*
*І сеют по травах*
*Пэрлісту росу.*
*Завтра з плугамы*
*Выйдут у поле*
*Посыплецца зэрне —*
*За ліпшую долю!*

**Іван Кірызюк**

## Пад фальклор

Моднымі цяпер пасталі
Песні нашых прадзядоў,
Гарачацца ўжо мяшчане,
Загуляем пад фальклор.

Розны кірмашы, фэстыны...
Дзе ні глянь — натоўп людзей.
І ліецца з бочак піва,
І народны, громкі спеў...

Модніцы ў шатах з крэмпліна,
Франты з кучаю валос.
Упрыгожваюць фэстыны —
Словам, царыць маладосць.

І з высотаў супермоды
Абыякава глядзяць
На звычайны люд вясковы,
Што не ўмее шыку даць.

Спрытны спецы ад халтуры
Незмардавана крычаць:
У народнасці культура,
Фантазія і размах...

І на сцэне пачынаюць
Штось пра лён, пра васілёк.
Грыміць візгат і рыданне,
Што прыйшло да нас здалёк.

Моднымі цяпер пасталі
Песні нашых прадзядоў:
І мяшчане, і сяляне
Запяваюць пад фальклор.

**Уладзімір Гайдук**

(Працяг са стар. 1)

# ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

прыехала 16 чалавек. Пасля пісьмовага тэсту да вусных адказаў было закваліфікавана шасцёра найлепшых. Адказвалі яны на пытанні, звязаныя з творчасцю выдатных беларускіх пісьменнікаў, якія пісалі пра апошнюю сусветную вайну: А. Адамовіча, Я. Брыля, В. Быкава, Я. Коласа, А. Куляшова, А. Карпюка, М. Лынькова, І. Мележа, А. Кулакоўскага, І. Навуменкі, І. Шамякіна і іншых.

Журы пад старшынством рэд. М. Шаховіча ў складзе: З. Красоўская, Л. Васілюк і Я. Іванюк першае месца прызнала Ірэне Васілюк з Галадоў, другое — Марыі Чабан з Паўночнага Вострава і трэцяе — Яўгеніі Баруце з Плёсак. Гэтыя асобы атрымалі грашовыя ўзнагароды. Чарговыя месцы занялі: Ніна Юзвюк з Барысаўкі, Аліцыя Раманчук з Бельска і Мікалай Панфілюк з Дубічаў Царкоўных. Атрымалі яны рэчавыя ўзнагароды, прызнаныя Галоўным праўленнем БГКТ. Апрача індывідуальных узнагарод, усе ўдзельнікі ваяводскіх элімінацый чытальніцкага конкурсу атрымалі беларускія кніжкі, грампласцінкі, каляровыя альбомы. Былі яшчэ грашовыя ўзнагароды Ваяводскай і гарадской публічнай бібліятэкі для бібліятэкараў, якія найлепш прапагандавалі беларускія кніжкі сярод чытачоў у рамках падрыхтоўкі да чытальніцкага конкурсу. Атрымалі іх: Лідзія Радышук з гарадской бібліятэкі ў Бельску, Зіна Смалеўская — кіраўнік філіяла гміннай бібліятэкі ў Плёсках і Зінаіда Красоўская — настаўніца, якая вядзе бібліятэку ў Бельскім беларускім ліцэі.

Удзельнікі чытальніцкага конкурсу добра падрыхтаваліся да ваяводскіх элімінацый. Іх адказы былі на высокім узроўні, чым былі задаволены і журы, і ўсе прысутныя. Ваяводскія элімінацыі чытальніцкага конкурсу — гэта добры доказ таго, што гэтага роду мерапрыемства павінна часцей арганізавацца, бо яно выклікае вялікае зацікаўленне (асабліва сярод вясковага насельніцтва і ліцэістаў) і садзейнічае павелічэнню колькасці чытачоў беларускіх кніжак.

Варта адзначыць, што ў час перапынкаў паміж паасобнымі этапамі элімінацый чытальніцкага конкурсу выступалі з песнямі дзявочы квартэт з Бельска і А. Раманюк — лаўрэат конкурсу „Беларуская песня — 76“.

Арганізацыя конкурсу была спраўная, згодна з раней апрацаваным планам. Не было месца на доўгія перапынкі, а тыя, што былі, запаўняліся прыгожымі мелодыямі, песняй. Журы таксама працавала вельмі аператыўна.

Словам, было гэта адно з найлепш падрыхтаваных мерапрыемстваў з нагоды святкавання Дзён культуры, асветы, кніжкі і прэсы ў маі гэтага года.

**Я. Цялушэцкі**
Фота аўтара



*Балельшчыкі.*



*Настаўніца Марыя Вярцінская на занятках у вясковым дзяцінцы.*

(Працяг са стар. 1)

## ГАСПАДЫНІ З ТЭАТРАЛЬНЫМ ПАЧУЦЦЁМ

кавыя культурныя мерапрыемствы. Варта дадаць, што Андрэй Вярцінскі з Сахоняў заняў першае месца ў Беластоцкім ваяводстве ў элімінацыях турніра ведаў аб сучаснай Польшчы і сёлета выступіць на цэнтральных элімінацыях, якія адбудуцца ў Варшаве.

У клубе да конкурсу „Беларуская песня 76“ рыхтавалася восем сахонеўскіх жанчын: Вольга Рамановіч, Надзея Бернатоўская, Філамена Радзішэўская, Яніна Юроўчык, Аляксандра Малышка, Надзея Цібароўская, Леакадзія Сохань і Юзэфа Казлоўская (бачым іх на здымку, як стаяць па чарзе злева направа). Выступалі яны ў Беластоку са сваімі любімымі песнямі: „Люблю я край, старонку гэту“ і „Ой, думаю я“. Гэта быў іх першы канцэрт у будынку БГКТ па вул. Варшаўскай. Спявалі вельмі прыемна. Былі крыху ўсхваляваныя. Выступяць з беларускай песняй на чарговым аглядзе ў наступным годзе.

**Янка Цялушэцкі**
Фота аўтара

## Свята ў гарадской бібліятэцы

Быццам бы ападаючыя пялёсткі з квітнеючых садоў, дзень за днём прайшоў май. Быццам і не было яго. Аднак зробленае застаецца зробленым. Калі цвет быў здаровым, заўсёды паявіцца завязка плода. А ці ж Дні культуры, асветы, кнігі і друку — гэта не цвет? У сувязі з гэтым заглянем сёння ў гарадскую бібліятэку ў Бельску, дырэктарам якой з'яўляецца А. Пасынюк. Не ведаю ці гаварыць тут аб працы ці не. Глянь-це толькі! Абслугоўваюць аж 12 гмін: 4 — у былым Бельскім павеце, 4 — у Беластоцкім і 4 — у Гайнаўскім. Разам апякуюцца 34-ма бібліятэчнымі пляцоўкамі, якім падпарадкаваны 230 пунктаў. Адным словам, як паведаміў дырэктар, займаюць менш-больш тую тэрыторыю, дзе пражывае беларускае насельніцтва. Усюды, прынамсі раз у квартал, трэба даехаць. Абмен кніжак мусіць праходзіць рэгулярна, а агульная іх колькасць дасягае трыццаці тысяч штук, з чаго 50 прац. знаходзіцца на пунктах і пляцоўках. Ці ж не шмат работы? Злажыўшы рукі, не пасядзіш.

У сувязі з „Днямі“ бібліятэка апранула святочны ўбор. На калідоры сценгазеты. Чытальны зал увесь у лозунгах. Вітрыны кніг. Гэтак у сярэдзіне. А з чым выходзяць за рубяжы памяшкання? Праграма даволі цікавая. Праводзілі конкурс на найлепшага бібліятэкара пункта. Трэба ж неяк іх узнагародзіць. Яны ж працуюць амаль грамадскім чынам. Другая справа — гэта сустрэча з пастаяннымі чытачамі. Ну, і, зразумела, нельга аддзяліць ад гэтага свята аўтарскіх сустрэч. У сувязі з гэтым запрасілі А. Маркса і В. Казака. А на 28, 29, 30 мая ў агульную праграму святкавання Дзён Бельска таксама ўнеслі свой уклад, якім з'яўляецца мерапрыемства „З найлепшымі пажаданнямі“. Складаецца яно з дзвюх частак: уступная — гісторыя бібліятэкі і артыстычная — пажаданні ў песнях для тых, што ўнеслі ўклад у заснаванне бібліятэкі. Ну, і галоўная рэч — падрыхтоўка чытальніцкага конкурсу „Вялікая Айчынная вайна ў творчасці беларускіх пісьменнікаў“. Вось так прайшоў май у бельскай бібліятэцы.

**М. Шаховіч**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА XXII

**Жыццёвае і творчае credo.** Паэма „Паэта, Маці і Муза“ з'яўляецца творчым маніфестам. У творы разгледжаны розныя аспекты творчага працэсу. Трэба аднак сказаць, што разгледжаны яны тут аднабакова. У паэме аўтар карыстаецца толькі двума колерамі: чорным і белым. Усё тут прадстаўлена ў крайніх, супрацьстаўных катэгорыях. Мы ўжо сказалі, што ў паэме выступаюць тры героі — Паэт, Маці і Муза. Можам гаварыць аб супольнасці, аднадумстве Паэта і Музы. Маці належыць да іх апанентаў. Яе погляды, яе меркаванні, яе прапановы ідуць уразрэз з ідэямі Паэта і Музы.

Пяройдзем да характарыстыкі поглядаў паасобных герояў. Ужо ў першых словах Паэта яскрава праяўляецца яго жыццёвае і творчае credo.

*Як арол, я з зямлі падымуся*
*І вачамі прасторы акіну,*
*А пад небам калі апынуся —*
*Светлай радасцю вокала ліну.*
*Запануе тады над зямлёю*
*Непадлеглая творчая сіла;*
*Яна ўздыме красу ды надзею*
*І жаданні людскія акрыліць.*

Далей паэт гаворыць аб тым, што ён „радзіўся з агнём“, „загартаваны ў сталь“ і што гатоў з радасцю прыняць смерць, баронячы жыццё сваіх ідэй. Паэт рашуча адкідае думку аб матэрыяльнай карысці з творчасці. Паэзія і грошы, на яго думку, — з'явы супрацьстаўныя і варожыя. Браць грошы за творчасць — гэта значыць — прадаваць душу. Паэт марыць аб „лаўрах“ і „бальзамах“, аб трыумфе яго духоўных праўд. Праўды яго не адарваныя ад рэчаіснасці. Звязаны яны з грамадскімі патрэбамі.

*За свабоду слова,*
*За парадак новы,*
*За святло праявы,*
*За пачатак справы*
*Буйнага змагання*
*Процi панавання,*
*Ўціску і нядолі,*
*Каб кастры, вастрогі*
*Ды ў кайданах ногі*
*Не звялі з дарогі*
*Ў нястрыманым ходзе*
*На пуці к свабодзе? —*
*Ворагу не дацца*
*Йсці — не азірацца,*
*З верай лёгкакрылай,*
*З буйнаю надзеяй,*
*Поўны гарту й сілы,*
*У той край жаданы*
*Волі панавання*
*Для ўсяго народу?!*

У іншых фрагментах свайго выказвання паэт гаворыць, што ён з'яўляецца „служкай людзям“. Службу людзям паэт звязвае з вернасцю Музе. Абяцае ён ніколі Музе не здрадзіць і не адыйсці ад яе ідэй.

Паэту не чужыя місіяністычныя схільнасці. Лічыць ён сябе вызваліцелем і прарокам, хоча змагацца за мільёны, верыць у магутную фізічную моц свайго слова.

Няма патрэбы шырэй характарызаваць погляды другога героя паэмы — Музы. Справа ў тым, што яе ідэі — гэта ідэі паэта, і ўсе найважнейшыя прынцыпы ідэалогіі Паэта можам прыпісаць Музе.

Зусім супрацьстаўныя ў адносінах да Паэта і Музы погляды выказвае Маці. Трэба сказаць, што персанаж Маці ў творы найбольш рэалістычны і верагодны. Маці не асуджае сына за яго зацікаўленне паэзіяй. Пры гэтым аднак лічыць, што сын павінен цікавіцца практычным бокам свайго і яе жыцця. Варта падкрэсліць, што жыццё гэтае безнадзейнае. У сям'і няма хлеба, дроў, стравы. Абыякавасць паэта ў такой сітуацыі да спраў побыту гранічыць з шаленствам. Таму нічога дзіўнага, што маці, услухоўваючыся ў дэкларацыі сына, сумняваецца ў яго розуме. Паэма канчаецца нечаканым акордам — смерцю паэта.

Што можна сказаць аб ідэйнай і мастацкай вартасці паэмы? У ідэйным сэнсе паэма не мае развязкі. Цяжка сказаць, хто з супрацьстаўных старон спрэчкі — Паэт ці Маці мае рацыю. Можна сказаць, што маюць рацыю абое. І паэт з крылатым лётам сваіх дэкларатыўных думак, і Маці з сваімі практычнымі бытавымі меркаваннямі.

Можна нямала крытычнага сказаць у адрас формы паэмы. Паэтычныя дэкларацыі ў вуснах пачынаючага паэта — сялянскага хлопца гучаць тэатральна, кніжна, штучна. Хутчэй яны падыходзілі б мацёраму рамантыку, чалавеку з глыбокімі ведамі, інтэлектуалісту. Паэт адарваны ад жыцця, ад практыкі, ад канкрэтнай дзейнасці. Увесь ён у сферы прыгожых, але абстрактных уяўленняў, фраз, парываў. І нягледзячы на гэта, нельга татальна асудзіць Паэта. Характарызуюць яго высокія эмоцыі, парывы, жаданні барацьбы, альтруізм. Без гэтых рыс, як вядома, не можа быць сапраўднай паэзіі. Характарызавалі яны, несумненна, і Цішку Гартнага, былі складовай часткай яго творчага credo. З гэтых прычын можам у нейкай ступені атоесамліваць героя паэмы і аўтара. Але толькі ў пэўнай ступені, бо вядома, што Гартны ўсё жыццё ўмеў спалучаць высокія лёты паэтычных уяўленняў з цвёрдай, упартай фізічнай і духоўнай працай. І вось гэтае ўменне звязаць тэарэтычнае з практычным, будучае з сённяшнім, уменне верыць, змагацца, дзейнічаць складае аснову жыццёвага і творчага credo Гартнага, а якраз такога ўмення не хапае герою паэмы.

# ТРЫБУНА чытачоў

Конкурс для школьнай моладзі

## У ШКОЛЕ

У пачатковай школе ў Пашкоўшчыне былі ўручаны ўзнагароды пераможцам конкурсу „Папулярна-навуковая літаратура пашырае нашы веды". Першае месца заняла Бартасюк Аліна, два другія — Крыся Мартынюк і Марыся Брэнка, трэцяе — Мікалай Брэнка. Дадатковую ўзнагароду атрымала таксама Крыся Мартыновіч.

У гэтым конкурсе, які быў арганізаваны пры ўдзеле бібліятэчнага філіяла, бібліятэкаршы з Грэдалёў памагалі дырэктар школы Мікалай Рашчэнка і настаўніца, якая вядзе гарцэрства, Галіна Адзіевіч. Пераможцы конкурсу выступілі таксама на гмінных элімінацыях у Орлі.

## У ОРЛІ

У гміннай бібліятэцы ў Орлі прайшла вышэйшая гмінная ступень конкурсу для школьнай моладзі „Папулярна-навуковая літаратура пашырае нашы веды". 9 удзельнікаў былі добра падрыхтаваны, і нялёгкае заданне мела камісія. На раённыя элімінацыі паедуць тры асобы — дзве з Орлі і адна з Грэдалёў.

На ваяводскія элімінацыі паедзе Марыя Брэнка з Грэдалёў за найлепш выкананыя працы па беларускай літаратуры.

**Восень**




### „ДЗЯДЗЬКІ"

*Варта ведаць, наша „Ніва"*
*На „Дзядзькі" вельмі шчаслівa.*
*Толькі ўзышла, зарунела —*
*Дзядзька Леваня ўжо мела.*
*Фельетоны ён тварыў,*
*„Нівай" дыхаў, „Нівай" жыў.*
*Дзядзькі Леваня не стала —*
*Страта „Ніве". Сумна стала.*
*У гэты сумны час якраз*
*Аб'явіўся „Дзядзька Квас".*
*„Дзядзька" ён сякі-такі,*
*Лепшы ўсё ж, як ніякі.*
*Але гэты патрыёт*
*Пастарэў ў апошні год.*
*Слабне, небарака, ніхне,*
*Мабыць ў хуткім часе „кікне".*
*Быццам з неба нам зваліўся,*
*Дзядзька Фёдар аб'явіўся!*
*Родам з вёскі Рыбакоў.*
*Дзядзька добры з ўсіх бакоў.*
*Дзядзька Фёдар, наш паэт,*
*Жыві многа, многа лет!*
*Любі „Ніву" і народ,*
*Твары вершы з году ў год,*
*Услаўляй нашу старонку*
*З глыбіні, з нутра і звонку!*
*Хай заўсёды наша „Ніва"*
*Налівае плён шчасліва!*

**Міх. Красоўскі**

## У ГАЛАДОЎСКАЙ КРАМЕ

У Галадах ёсць крама. Прадаюцца тут спажывецкія і прамысловыя тавары. Прадаўшчыцай з'яўляецца Лідзія Бобік. Яна рэгулярна заказвае розныя напіткі ў сваю краму. Павінны іх прывозіць у кожную пятніцу. Павінны, але ці прывозяць? Дзе там! Не памагаюць ані скаргі людзей, ані тэлефоны. Людзі чакаюць, а дастаўкі рэгулярнай няма. Трэба з гэтым зрабіць парадак, асабліва цяпер, калі набліжаецца лета і час цяжкіх палявых работ.

**В. А.**

## МАЛАДЫ ГАСПАДАР — ДЗЯРЖАВЕ ДАР

Цяпер мала маладых людзей застаецца на гаспадарках. Стараюцца яны атрымаць нейкую прафесію і паехаць у горад, каб там знайсці лёгкі хлеб. Але ёсць і разумныя маладыя людзі, якія і на вёсцы пры цяперашняй тэхніцы бачаць добрыя магчымасці працы і жыцця. Да такіх належыць Расціслаў Алекша з Піражкоў у Шудзялаўскай гміне. Ён палюбіў працу на зямлі і саму зямельку-карміліцу.

Расціслаў Алекша са сваім бацькам Міхасём гаспадараць на 14 гектарах. Сын закончыў курс трактарыстаў. Купілі трактар, снопавязалку, растрасальнік для гною і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Бацька ўжо падыходзіць да гадоў і кажа да сына Родзіка: „Я апішу восем гектараў на цябе, а рэшту здам за пенсію". „Не, — гаворыць Родзік, — будзем усю зямлю рабіць!".

Родзік стаў завочна вучыцца ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Ружанастоку і хоча быць кваліфікаваным гаспадаром. А мы верым, што такім ён будзе!

**Віт**

## ДАШОЎСКАЯ КАМАНДА

Дашоўская дзявочая каманда ручнога мяча выйграла ў Саках чэмпіянат гміны Кляшчэлі. Удзел прынялі чатыры каманды: з Палічнай, Сакоў, Кляшчэляў і Дашоў. Дашоўская каманда заваявала І месца ў гміне. Дашы выйгралі з Палічнай і з Сакамі.

У Дашах дружная і вясёлая каманда. У маі яны ўдзельнічалі ў чэмпіянаце раёна Бельска. Тут было дзевяць камандаў. Першы матч Дашы разыгралі са школай № 1 у Бельску (10:1), наступны са школай № 3 у Бельску Падляшскім (4:3), трэці з Чаромхай (7:2), а апошні з Орляй (2:1).

У далейшым ужо ўсе былі змучаны, ды ўсё такі ігралі да канца. Дашоўская каманда заваявала ІІ месца ў раёне. Чакаюць яе яшчэ розыгрышы ў Сямяцічах. Асноўны склад каманды: Астапковіч Г., Рашчэнка М., Рашчэнка Г., Мішчэвіч М., Такарская М. і Крынская М. Найбольш голаў было ў Рашчэнкі Марыі — 13. У варотах была Г. Астапковіч. Каманду гэту вядзе настаўнік фізкультуры Міхал Рачкевіч.

**Ягада**

мяне палонным і не збіраецеся ўчыніць мне допыт. Я ваш паплечнік па барацьбе, — заявіў Муха-Міхальскі.

— Вы наш госць, а не палонны, — супакоіў яго Арлоўскі.

Паступова Муха разгаварыўся.

Іозеф Муха-Міхальскі, ураджэнец Пётркаўскага павета Варшаўскага ваяводства, у чыне харунжага служыў камандзірам узвода ва ўланскім кавалерыйскім палку, які размяшчаўся ў мястэчку Ляхавічы і навакольных вёсках. Па характары бунтар і вольналюбец, ён не раз у коле сяброў крытыкаваў урад за рэакцыйную палітыку. Фанабэрыстае афіцэрства глядзела на яго, выхадца з беднай сям'і, з пагардаю. Прыдзірлівыя начальнікі даволі часта саджалі на гаўптвахту ўпартага харунжага. Азлоблены Муха-Міхальскі, вярнуўшыся з чарговай гаўптвахты, яшчэ болей лаяў улады і афіцэрства. Нарэшце Муху арыштавалі, яму пагражаў ваенны трыбунал, але ён уцёк з-пад варты.

— І чым займацца вырашылі? — спытаў Арлоўскі.

— Буду помсціць уладам, афіцэрам, трэсці багацеяў — памешчыкаў, купцоў...

— У імя чаго ўсё гэта? А за што вы помсціце папам, пагражаеце ім абразаць бароды?

На гэтыя пытанні Арлоўскага Муха адказаць не змог.

Гутарка была доўгая і шчырая і дала свае вынікі: Муха-Міхальскі прасіў прыняць яго ў атрад, абяцаў ва ўсім слухацца камандзіра.

І хоць пад кіраўніцтвам Арлоўскага мяцежны польскі афіцэр не так хутка і проста ператварыўся ў выдатнага, дысцыплінаванага партызана, імя Мухі-Міхальскага з гэтага часу пачало ўпамінацца ледзь не ў кожнай справаздачы розных паліцэйскіх начальнікаў і старастаў, замільгала на старонках польскага друку.

І сталася так, што Іозефа Муху-Міхальскага, які ўваходзіў у атрад Аршынава і працаваў пад яго кіраўніцтвам, агентура і паліцэйскае начальства, ваяводы і генералы, асаднікі і журналісты лічылі самым галоўным партызанскім атаманам, ставілі яго вышэй Аршынава-Арлоўскага, Ваўпшасава-Смольскага, Макарэвіча і іншых партызанскіх важакоў. І „вінаваты" тут быў Арлоўскі, яго палітычная прадбачлівасць. Буржуазныя ўлады паслядоўна і настойліва сцвярджалі, што ў лясах дзейнічаюць рускія і беларускія „бандыты", і не шкадавалі намаганняў, каб падбіць супроць іх польскае насельніцтва. А Кірыла Арлоўскі пачаў распаўсюджваць чуткі пра тое, што ўсе налёты, разгромы паліцэйскіх пастарункаў і іншыя аперацыі, якія праводзіліся Арлоўскім, яго падначаленымі А. М. Рабцэвічам, В. З. Каржом і іншымі, ажыццяўляе са сваім атрадам няўлоўны і смелы былы польскі харунжы Муха-Міхальскі.

*(Працяг будзе)*

# Пакуль не позна

29.04.76 г. чакаў я на прыпынку ў Падбеллі цягніка, які адыходзіць у напрамку Седлец а 7.52. Цягнік не спазніўся. Калі затрымаўся, я накіраваўся ў вагон. Ды не паспеў ступіць адной нагой у калідор, як вагоны крануліся і я, узмахнуўшы рукамі, толькі паспеў схапіцца за ручкі дзвярэй (у дзвюх руках меў багаж). Усё гэта адбывалася з маланкавай хуткасцю. Не чуў я голаса кандуктара на пероне, які б перадаваў машыністу гатоўнасць поезда да ад'езду, не бачыў абслугі. Добра, што нехта з перона падтрымаў мяне, а пасля піхнуў у вагон. Інакш, хто ведае, ці не апынуўся б я пад коламі цягніка.

На станцыі ў Грыгароўцах я хацеў убачыць кандуктара і сказаць яму некалькі слоў „па-мужыцку". Але і тут не паказалася жывая душа з абслугі перона. Тое самае было і ў Кляшчэлях. Толькі ў Чаромсе з'явіўся кіраўнік поезда, каб уручыць машыністу „асобае распараджэнне", паданае дзяжурным. А кандуктар, як пасажыр, сядзеў у купэ першага вагона і прыглядаўся падарожным.

Апісаны вышэй факт не з'яўляецца адзіным такім выпадкам. Амаль кожны дзень езджу цягнікамі і бачу, як „паны кандуктары" (кандукташы таксама) фліртуюць з пасажырамі, а толькі кіраўнік дзейнічае за ўсіх. А ці так павінна быць? Думаю, што гэтай справай пацікавіцца ДРКП у Беластоку і напомніць кандуктарам аб іх абавязках. Пасажыры хочуць мець загарантаваную бяспеку ў падарожжы і толькі таго чакаюць ад чыгуначнікаў.

(ус)

## ЛУКА З СЕМЯНОЎКАЙ

Паміж моладдзю вёсак Лука і Семяноўка ўжо даўно існуюць добрасуседскія адносіны. Як у адной, так і ў другой вёсцы многа прыгожай моладзі, якая супольна праводзіць вольны час у нядзелю. І так, па запрашэнню моладзі Семяноўкі паміж футбольнымі камандамі абедзвюх вёсак быў разыграны матч. Гаспадары выйгралі 17:0. Голы ўбілі: Юрка Бірыцкі — 4, Анатоль Скепка — 4, Аніскевіч Юрка, с. Мікалая — 4, Валодзя Бірыцкі — 1, Юрка Тарасевіч — 3, Мікалай Бірыцкі — 1. Варатаром у Семяноўцы быў Аніскевіч Юрка.

Потым падобны матч быў разыграны ў Луцэ, дзе вынік быў ужо 5:5. Пастараліся цяпер спартсмены з Лукі даказаць, што і яны ўмеюць добра іграць. Да добрых ігракоў належаць тут: Міхал Харкевіч — 3 голы, Сяргей Лобач — 1, Янка Харкевіч — 1. Для Семяноўкі ў другім матчы голы ўбілі: Юрка Бірыцкі — 2, Янка Русакоў — 1, Анатоль Скепка — 1, Юрка Тарасевіч — 1. Суддзёю быў і ў Семяноўцы і ў Луцэ Міраслаў Тарасевіч.

Трэба сказаць, што на абодвух матчах было многа балельшчыкаў з абедзвюх вёсак.

Было б добра, каб гэтай моладдзю заняўся бліжэй ЛЗС, якога пасля рэарганізацыі павятаў цяжка і знайсці. Прыдаўся б прыгожы пераходны кубак, напрыклад, начальніка гміны. Вось бы ішла барацьба за яго!

**В. Б.**

## МАЛАДЫЯ ПЧАЛЯРЫ

У групе сельскагаспадарчых школ у Бельску закончыўся курс маладых пчаляроў. Арганізатарам яго быў бельскі аддзел агародніцка-пчалярскай арцелі. На курс хадзіла моладзь сельскагаспадарчага тэхнікума. Маладыя людзі многаму навучыліся — як гадаваць пчол, як апекавацца імі і як развіваць пчалярства. Большасць моладзі хоча пачаць працу ў СКР-ах, якія будуць развіваць пчалярства.

**Мікалай Няплоха**

З чыгуначнай Чаромхі

## ГРЭКІ Ў ЧАРОМСЕ

Чаромху наведаў грэцкі мастацкі калектыў з Польшчы „Гэллен". Артысты далі два канцэрты. Зала была запоўнена да апошняга месца. Рознакаляровыя ўборы, цудоўная музыка Тэадаракіса, народныя грэцкія песні і танцы захапілі гледачоў. Шкада, што няпоўныя дзве гадзіны праляцелі надта хутка і прыйшоў час развітацца з мілымі госцьмі. А пасля канцэртаў доўга гаварылася ў пасёлку аб калектыве. Гэтае мерапрыемства арганізавалі сваім працаўнікам рада прафсаюзаў чыгуначнікаў і кіраўнік дома культуры „Калеяж" у Чаромсе Мікалай Гарадкевіч. (ус)

## РЭЙД ПАРТЫЗАНСКІМ ШЛЯХАМ

З нагоды 31-ай гадавіны заканчэння вайны, аддзел ПТТК супольна з клубам афіцэра запасаў у Гайнаўцы арганізаваў рэйд шляхам партызанскіх баёў. У рэйдзе прыняло ўдзел некалькі турыстычных груп: пешаходная, веласіпедная і аўтамабільна-матацыклетная. Кожная з гэтых груп мела свой шлях. Па дарозе турысты затрымоўваліся ў тых месцах, дзе праходзілі партызанскія баі, пры магілах загінуўшых у барацьбе з акупантамі. Клалі тут вянкі і букеты кветак.

Закончылі рэйд усе групы на ўскраіне лесу непадалёку ад вёскі Буды. Пасля дарогі ўсе ўдзельнікі з апетытам паабедалі. Потым сустрэліся пры кастры. Малодшыя ўдзельнікі рэйду падрыхтавалі мастацкую праграму. Было сказана многа вершаў, гучэлі партызанскія і ваенныя песні.

Кульмінацыйным пунктам было выступленне ветэранаў ІІ сусветнай вайны. Пра сваю партызанскую дзейнасць, штодзённае партызанскае жыццё, пра баі з гітлераўцамі расказваў, між іншым, жыхар Навасадаў таварыш Севіч.

Рэйд быў вельмі прыемным мерапрыемствам. Арганізатары яго заслужылі на словы падзякі.

**В. С.**

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

### „ХТО МЕЎ РАЦЫЮ?"

Нядаўна мы апублікавалі ліст нашай чытачкі з Гайнаўкі, у якім яна прыводзіла факты, як некультурна абышлася з ёю прадаўшчыца ў гайнаўскіх „Дэлікатэсах". Найперш дзякуем **аддзелу ВСС „Сполэм" у Гайнаўцы** за хуткі адказ на крытыку, без нашага пісьмовага паведамлення. Так і трэба рэагаваць на газетную крытыку. Арганізацыйная спраўнасць працы гэтай гайнаўскай установы дазволіла хутка даследаваць скаргу і знайсці вінаватых. Як відаць з адказу, гайнаўскі ВСС не церпіць бескультур'я ў сваім гандлі!

W tygodniku nr 17 z dnia 25.04.1976 r. został zamieszczony artykuł p.t. „Kto miał rację?", w którym klientka krytykuje niewłaściwy stosunek sprzedawców do klientów w trakcie sprzedaży i niedostateczną kulturę pakowania herbaty ekspresowej w dniu 20.03.1976.

**Dyrekcja tut. Oddziału całkowicie przyznaje rację klientce i przeprasza ją za ten przykry incydent a jednocześnie wyjaśnia że na temat przeprowadzono rozmowę z cała załogą i zdjęto 2 sprzedawców uzupełniając skład załogi młodzieżą.**

Mamy nadzieję, że podobne przypadki nie będą miały miejsca w naszych sklepach.

**WŁODZIMIERZ FIŁONIUK**
Z-ca Dyrektora Oddziału

*

### АГУЛЬНЫ КЛОПАТ З НАПІЛЬНІКАМІ

Дзе купіць напільнік? Рэч дробную ды неабходную ў кожнай хаце. Вось пытанне, якое ставілася ў некалькіх публікацыях у „Ніве". На адно з іх з тэрыторыі Сакольшчыны стараецца адказаць **ВЗГС у Беластоку.** Раскладаем рукі. Аказваецца, напільнік — тавар люксусны, кожны не купіць. І так, як відаць з пісьма, **ЦРС у Катовіцах** дае нам больш напільнікаў, чым мы заслужылі. Чым жа мы на гэту ласку заслужылі?! А людзі кажуць: нам без лас-кі дайце больш напільнікаў у крамы, і ўсё тут.

W odpowiedzi na notatkę prasową „Niwa" nr 12 (1017) z 21 marca 1976 r. dotyczącą braków pilników w sklepach: Sokółka, Szudziałowo, Krynki wyjaśniamy co następuje:

Zakład Handlu w Sokółce zaopatrujący 7 sklepów do produkcji rolnej (teren byłego powiatu Sokółka) otrzymał w okresie od 1 stycznia—10 kwietnia 1976 r. 3477 szt. pilników trójkątnych oraz 400 szt. płaskich. Pilniki są towarem reglamentowanym i pokrycie zapotrzebowania składanego przez sklepy wynosi około 40%.

Mimo naszych pisemnych interwencji, CRS Oddział w Katowicach nie jest w stanie zabezpieczyć potrzeb terenu, uzyskaliśmy jedynie priorytet w realizacji kwartalnych przydziałów jako województwo. Dla porównania — sklep w Gródku w analogicznym okresie otrzymał 300 sztuk pilników trójkątnych, 100 sztuk płaskich.

Jak wynika z powyższych cyfr, podział masy towarowej jest dokonywany równomiernie.

Dostaw towarów do sklepów dokonuje się nie w jednym czasie i tylko dlatego były pilniki w Gródku, ponieważ dostarczono je później niż do sklepu w Sokółce. Szudziałowie i w Krynkach. W momencie otrzymania dostaw z przemysłu dokonamy uzupełnienia do sklepów.

Dyrektor ZOR
**ZB. DOBRZYŃSKI**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартгумар

# Лыжка дзёгцю

Цёшча ў мяне, я вам шчыра скажу, — проста золата. І ўсё было б добра, калі б не кватэра. Малаватая крыху, пашырацца трэба.

Праўда, я стаю на чарзе, але цешчы і жонцы не церпіцца — як бы найхутчэй. Не хочуць чакаць, хоць ты што.

Аднойчы цешча мне гаворыць:

— Давай, я пайду да тваёго начальніка, паскарджуся.

Я адказваю:

— Хадзіў ужо. Не дапамагае. Кажа, чаргі трэба чакаць... — сказаў я гэта і раптам прыйшла нечаканая думка. „А што, калі..." і тут я выказаў сваю думку цешчы: — Ведаеш што? Ты завітай да начальніка і на мяне паскардзіся. Скажы, быццам я сябе дома абуральна паводжу, лаюся і гэтак далей. Таму жыць са мною, скажы, цяжка, трэба раз'ехацца.

Наступным днём выклікае мяне Іван Міхайлавіч. Пахмурны такі, сярдзіты.

— Што ж гэта ты, Бубцэвіч, на рабоце такі ціхі, лагодны, а дома? Не чакаў я, не чакаў...

Я маўчу. З нагі на нагу пераступаю, чырванею. Але маўчу: цешчын план ажыццяўляю.

— Ну ідзі, — прапесочыўшы мяне як след, кажа Іван Міхайлавіч. — Ідзі, і каб больш ні-ні...

Дома я цешчы ўсё, як было, расказаў. Маўляў, нічога мы гэтым не дабіліся. А яна — сваё:

— Нічога, дзеля бочкі мёду можна з'есці лыжку дзёгцю..

Праз нейкі час зноў пайшла да Івана Міхайлавіча. А той зноў мяне да сябе ў кабінет...

Неяк надвячоркам прыходжу з работы, цешча ззяе.

— Ну, лічы, што ордэр у нас у кішэні. Я сказала, што ты сервіз за сто рублёў пабіў і жонцы рабрыну зламаў.

— А ён што? — пытаюся.

— Іван Міхайлавіч? О, ён чалавек душэўны. „Разумею, кажа, зраблю, што магчыма..."

Наступным ранкам не паспеў я за свой рабочы стол сесці — званок. Іван Міхайлавіч. Сам.

— Бубцэвіч! Зайдзіце да мяне!

Строга так, па-дзелавому. „Ну, думаю, малайчына цешча!" Бягу да шэфа ў кабінет і думаю: „Цікава, у якім раёне? А паверх які? Толькі б не першы..." На дарозе сустракаю старшыню мясцкома.

— Ну што, — пытаюся, — як вырашылі?

— Пацярпі, — адказвае, — даведаешся.

І сапраўды, даведаўся. Атрымаў, як сказаў Іван Міхайлавіч, па заслугах. Строгую вымову мне аб'явілі, з занясеннем. І справу ў таварыскі суд перадалі...

**В. Добкін**

(„Вожык")

# НІЎКА

— Ітак, хто з нас цар?

Без слоў.

**АБРАЗА**

*— Набраўся недзе, як свіння,*
*Дый брэша, як сабака;*
*Вось некаму цябе суняць! —*
*Так прабірае жонка мужа,*
*Які напіўся дужа*
*І лаецца са смакам.*
*— Няпраўда, — кажа тут свіння*
*Да п'яніцавай жонкі: —*
*А ні гарэлкі, ні віна,*
*Ні нават самагонкі*
*Не п'ю я з роду.*
*А толькі п'ю памыі й воду,*
*І за такую вось абразу*
*Я падцягнуць магла б адразу.*
*— І я пакрыўдзіўся на вас, —*
*Спусціўшы хвост і морду нізка,*
*Сказаў вясковы Лыска, —*
*Ці чулі вы калі хоць раз*
*Такую лаянку між нас,*
*Адборную, густую?*
*Я пратэстую!*

*Што можам мы дабавіць з вамі?*
*Жывёлы ўсё сказалі самі.*

**Кандрат Крапіва**

**АЎТАМАБІЛІСТ**

Прахожы пытае аўтамабіліста:

— Чаму вы ўвесь час кружыце ля бальніцы?

— Бачыце, я сёння першы раз за рулём!

**...Нуль вельмі ганарыцца тым, што з яго пачынаюць усё.**

**...У яго з гэтай жанчынай быў навукова-фантастычны раман.**

**ФЕНЬКІНА ЛОГІКА**

— Верыць мужчынам? Не! Усе мужчыны — брахуны! — сказала Канцавая Фенька.

— Гэта чаму?

— А як жа! Колькі з іх кляліся мне ў каханні, а не ажаніўся са мною ніводзін!

**НА ЎРОКУ**

— Міколка, адкажы, колькі будзе чатыры і два?

— Я не ведаю.

— Ну як жа ты не ведаеш... Я даю табе чатыры каты, і твой дзядзька дае табе яшчэ два каты, колькі ўсіх будзе катоў?

— Восем.

— Чаму восем?

— А таму восем, што ў мяне дома ёсць яшчэ два каты.

**НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ**

Паказаўшы маладой пары іх пакой у атэлі, парцье спытаў:

— Ці трэба вам што-небудзь?

— Не, дзякую, — адказаў малады чалавек.

— А для вашай жонкі?

— Добра, што напомнілі. Прынясіце мне канверт з маркай.

* * *

Быў гарачы дзень, і кюрэ абяцаў сказаць самую кароткую пропаведзь. Ён сказаў:

— Калі вы лічыце, што тут горача, — пацярпіце. У пекле куды гарачэй.

* * *

— Да вас прыйшоў на спатканне сіньор Росі, — кажа турэмшчык зняволенаму.

— Скажыце, што мяне няма.

**ГУМАР З**

**ТРЫ КРЫЖЫКІ**

Задрыпанец ставіць тры крыжыкі замест подпісу на дакуменце. Чыноўнік яго пытае:

— Чаму тры крыжыкі?

— Апошнія два абазначаюць маё імя і прозвішча, а першы — вучонае званне.

— Спачатку ён кінуў курыць, потым кінуў піць, а потым кінуў мяне...

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Весялоўскай з Орлі змяшчаем песню*

## Drzewa ruszają w drogę

**z repertuaru zespołu „Homo Homini"**
**słowa: B. Choiński, M. Dagnan**
**muzyka: Waldemar Domagała**

Słuchaj nas!
Niebo jest chore, las moknie,
w niebie dziurawe jest dno.
Popatrz: dziewczyna przy oknie
siedzi i gapi się w noc.
Gdy ją zapytasz, co w oknie
widzi, odpowie ci to,
drzewa zbierają się w drogę,
słychać po nocy ich głos:
Trzeba wreszcie coś postanowić,
trzeba ludzkiej położyć
kres zachłanności!
Dłużej już czekać nie mogą
widząc niepewnym swój los.
Drzewa zwołują się w drogę,
słychać po nocy ich głos...
Słuchaj no ty, słuchaj no ty,
z tej strony rzeki!
Słuchaj no ty, słuchaj no ty,
po tamtej stronie!
Chyba już czas, pora by iść,
świt niedaleki.

Gdy wyjdziecie z domów o świcie,
z domów swoich na drogę,
cóż zobaczycie?
Stało się przecież na koniec
to, co musiało się stać,
wielkim zielonym pochodem
drzewa ruszyły przez świat.
Słuchaj no ty, słuchaj no ty...

Cóż ugasi pożar, gdy cała
studnia cierpliwości się już wyczerpała!
Groźnie huczące na wietrze
już nie lękają się nas
drzewa ogromne, jak wieże,
wchodzą przemocą do miast.

— *Такую бегавую дарожку я запраектаваў спецыяльна для Алімпійскіх гульняў.*

# Курёзы

**ЧАГО ВАРТАЯ СЛАВА**

Хейнц Вільгельм, 54-гадовы мыйшчык посуду з заходнегерманскага горада Оберстдорф, марыў, што пра яго рана ці позна загавораць газеты. Але час ішоў, а журналісты не звярталі на яго ўвагі.

— Сёння я нарэшце праслаўлюся, — сказаў Хейнц у той памятны сакавіцкі дзень, выйшаў на вуліцу і накіраваўся ў спартыўны магазін. Там ён надзеў даспехі лыжніка і падняўся на 145-метровы трамплін. Наверсе Хейнц выявіў, што забыў купіць лыжы. Але адступаць было позна. Мыйшчык посуду сеў на вечка ад кардонкі, што валялася побач, і імкліва памчаў уніз. Вынік: палёт да пяцідзесяціметровай адзнакі ля падножжа трампліна, два зламаныя рабры, лёгкае зрушэнне мазгоў і... доўгачаканыя фатаграфіі ў мясцовай прэсе.

**ВЫПАДАК У ЛІМЕ**

Неверагодны выпадак адбыўся нядаўна на адной з вуліц перуанскай сталіцы. Чатырохгадовы хлопчык Нільтан Урбана, загуляўшыся, выпаў з акна кватэры. Гібель дзіцяці здавалася немінучай. Тое, што адбылося потым, пісалі газеты, было падобна на цуд: у апошняе імгненне на вачах у анямелых ад жаху прахожых падаючае дзіця падхапіў на рукі пажылы мужчына, які праходзіў міма. Ім аказаўся вандроўны артыст-фокуснік Педра Хайка.

# Між намі

**У наш час буслы нясуць дзяцей адразу да бабулек.**